СОНЦА:
Усход, захад, даўжыня дня:
Мінск — 6.36, 19.50, 13.14;
Віцебск — 6.24, 19.41, 13.17;
Магілёў — 6.25, 19.39, 13.13;
Гомель — 6.22, 19.36, 13.14;
Гродна — 6.49, 20.06, 13.17;
Брэст — 6.54, 20.03, 13.09.

МЕСЯЦ:
Маладзік 3 красавіка.

ІМЯНІНЫ:
Васіля, Ісака;
Ісідара, Вацлава.

# ЗВЯЗДА

4 КРАСАВІКА 1992 г.
субота № 70 (21848)

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 50 кап.

## РОЗГАЛАС

### КАБ ШКОЛА САПРАЎДЫ БЫЛА БЕЛАРУСКАЙ

Колькі дзён таму ў Мінску прайшла навукова-практычная канферэнцыя «Беларуская школа». Ладзіў яе Беларускі гуманітарны адукацыйна - культурны цэнтр, які праславіўся тым, што заняў памяшканне былой Вышэйшай камсамольскай школы. Гэта, бадай, першы збор нацыянальна-свядомай інтэлігенцыі, прысвечаны канцэпцыі нацыянальнай адукацыі.

У канферэнцыі бралі ўдзел народныя дэпутаты Лявон Баршчэўскі і Алег Трусаў, прафесары Уладзімір Конан, Юрый Хадыка, Уладзімір Кулажанка, Мікола Савіцкі, беларусы з Беластока і Гданьска, Вільні і Масквы. На жаль, адсутнічала кіраўніцтва Міністэрства адукацыі.

Канферэнцыя засведчыла: калі пра стварэнне нацыянальнай сістэмы адукацыі слаба дбае ўлада, за справу —і шчыра, і кампетэнтна — бярэцца грамадства. Вырашана стварыць групы экспертаў, якія б укладалі і ацэньвалі навучальныя праграмы. Выпрабоўваць гэтыя праграмы будзе ліцэй пры Беларускім гуманітарным адукацыйна-культурным цэнтры.

**Алесь КНЯЗЮК.**
**(БелаПАН).**

### ВЫДАННЕ, ДАСТУПНАЕ ЎСІМ

Беларусь ідзе цвёрдым курсам умацавання свайго суверэнітэту, таму заканадаўчае рэгуляванне нашага жыцця набывае выключнае значэнне. Ведаць законы і кіравацца імі ў паўсядзённых зносінах — святая святых для кожнага. У гэтым вам дапаможа такое выданне, як «Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь». «Ведамасці...» заснаваны ў 1990 годзе, выходзяць тры разы ў месяц на дзвюх мовах — беларускай і рускай. У іх публікуюцца законы, указы, пастановы і іншыя акты, прынятыя Вярхоўным Саветам РБ, яго Прэзідыумам. У параўнаўча маладога выдання ўжо ёсць свая шырокая аўдыторыя. Пастаяннымі падпісчыкамі «Ведамасцей...» з'яўляюцца многія работнікі савецкіх, прававых і гаспадарчых органаў, юрысты, іншыя спецыялісты народнай гаспадаркі, студэнты і пенсіянеры. Выпісаць «Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь» можна ў аддзяленнях сувязі па месцы жыхарства на любы тэрмін. Выданне даступнае ўсім, яго індэкс 75008.

### МЫТНЯ «ІДЗЕ НА БАЛЬНІЧНЫ»

**По паведамленню газеты «Вячэрні Брэст» з 10 красавіка спыняецца эксплуатацыя мытнага КПП «Варшаўскі мост».**

**Рашэнне аб немагчымасці эксплуатацыі вынес галоўны дзяржаўны санітарны ўрач горада Вячаслаў Ракоць. Падставай для гэтага кроку паслужыў «надзвычай нездавальняючы стан памяшканняў КПП, невыкананне плана мерапрыемстваў па добраўпарадкаванню тэрыторыі».**

**Таццяна ГУСЕВА. (РІД).**

## «Дапамажыце атрымаць надзел зямлі»—

### ПІСЬМЫ, ТЭЛЕГРАМЫ З ТАКОЙ ПРОСЬБАЙ ЛІТАРАЛЬНА ЗАХЛІСТВАЮЦЬ У ГЭТЫЯ ДНІ ВЯРХОЎНЫ САВЕТ РЭСПУБЛІКІ

**І. Кузьміцкі** (ад імя членаў садаводчага таварыства «Усход» аб'яднання «Белбуднавука»):

— 10 гадоў назад нам выдзелілі ў Маладзечанскім раёне па 0,05 га зямлі. Зараз, згодна з Кодэксам, можна атрымаць да 0,1 га. Абіваем парогі кіраўнікоў саўгаса імя Я. Купалы і калгаса «Дуброва», да зямель якіх прымыкае наш участак. Звярталіся і ў Маладзечанскі райвыканком, у Пракуратуру рэспублікі — зямлю не даюць, у той час як іншыя таварыствы («Пралеска», «Мантажнік», «Ранет») яе атрымоўваюць. Дзе ж справядлівасць?

Тэлеграма ад **К. Шкуля** з пасёлка Мачулішчы:

— Адымаюць частку прысядзібнага ўчастка, які займае 20 сотак, для дачы немаведама каму. Скаргі ў сельсавет, абласную пракуратуру, камісію Гаркуна застаюцца без адказу. Калі скончацца здзекі над вёскай?

Заява **А. Пясоцкага** з вёскі Дворышча Дзяржынскага раёна:

— Прашу даць канчатковы адказ: ці магу я атрымаць зямлю для фермерскай гаспадаркі? Занёс заяву на выдзяленне 50 га зямлі ў Дзямідаўскі сельсавет. На сесіі Дзяржынскага райсавета У. В. Гаркун без усялякіх падстаў катэгарычна адхіліў маю просьбу.

І аналагічная — з Мінска, ад **Н. Ганічавай:**

— Дапамажыце атрымаць садовы ўчастак. Гарвыканком накіраваў маю заяву ў Мінскзеленбуд. А там пацікавіліся маімі заслугамі і сказалі больш не хадзіць.

Я — пенсіянерка, апякунка — выхоўваю непаўналетняе дзіця. Жывём на пенсію 460 рублёў, купляем толькі хлеб, малако ды бульбу.

— Год барацьбы за права атрымаць зямлю дазваляе сцвярджаць, што ў рэспубліцы пануе самавольства. У маёй справе аб іску да калгаса імя Фрунзе ніхто не ўспамінае Канстытуцыю, Дэкларацыю правоў і свабод чалавека, затое з упэўненасцю сцвярджаецца вяршэнства прыкладнага Статута калгаса над законам, — такое пісьмо напісаў **У. Шадэнка** з вёскі Дрэжна Віцебскага раёна.

Паўтара года абівае парогі раённых улад з просьбай даць зямельны надзел для фермерскай гаспадаркі У. Буднік з Ганцавіч.

— Жыву ў горадзе, а мяне пасылаюць у сельсавет, — скардзіцца ён. — Там жа разводзяць рукамі, маўляў, зямлі няма. У нашым раёне зямлю не хочуць даваць нікому.

Тэлеграма з Гомеля ад **Р. Дзегцярова:**

— Сабатуецца выдзяленне зямлі пад садовае агародніцтва. «Гомсельмаш» абяцаў даць усім жадаючым па 10 сотак. У цэху 400 чалавек, а ў латарэі разыгрываліся толькі два ўчасткі...

На заканчэнне сігнал **А. Дымшы** з вёскі Першамайская Бярозаўскага раёна. У ім, бадай, найбольш яскрава адлюстраваліся боль і адчай усіх, хто хоча — ні многа, ні мала — засеяць невялікі надзел зямлі, што належыць ім па закону.

— Звяртаюся да вас з апошняй надзеяй: два гады спрабую стварыць фермерскую гаспадарку. Звяртаўся ў саўгас, выканком, пракуратуру, у раённы і абласны суд — зямлю не даюць. Выхад адзін — палітычны пратэст супраць той зямельнай рэформы, якая вядзецца па чыноўніцкіх законах.

**У панядзелак ход выканання зямельнай рэформы будзе разгледжаны на пасяджэнні Прэзідыума Вярхоўнага Савета. Ці панясуць, урэшце, пакаранне тыя, хто вось так «свабодна» маніпуліруе заканадаўствам?**

**Людміла ДРАЗДОВА.**

### ДАЕШ РАЗРАД!

**Аб мерах, якія прымае Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь па сацыяльнай абароне насельніцтва, паведаміў журналістам на прэс - канферэнцыі Старшыня Дзяржкамітэта па працы і сацыяльнай абароне Г. Бадзей.**

**Ён падкрэсліў, што мэта ўрада ў гэтым напрамку — распрацоўка цэласнай сістэмы абароны грамадзян у цяперашняй эканамічнай сітуацыі. Нядаўна, напрыклад, Савет Міністраў распрацаваў новую тарыфную сетку, якая складваецца з 28 разрадаў. У аснове яе— мінімальная заработная плата 550 рублёў. Першы разрад у сетцы — 600 рублёў. Кожны наступны адрозніваецца на 11 працэнтаў, а больш высокія стаўкі —з 22 па 28 разрад — павялічваюцца толькі на 9 працэнтаў.**

**Паводле слоў Г. Бадзея, па дваццаць восьмаму разраду будуць атрымліваць грошы толькі два чалавекі ў рэспубліцы: Старшыня Вярхоўнага Савета і Прэм'ер-міністр. Тарыфная сетка будзе выкарыстоўвацца толькі ў бюджэтных арганізацыях. Самастойныя прадпрыемствы могуць разглядаць яе, як рэкамендацыі.**

## Беларусь—Літва: новы этап супрацоўніцтва



У час падпісання Пагаднення.

Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.

Здаецца, што пасля эйфарыі ад абвяшчэння незалежнасці рэспублікі прыходзяць нарэшце да асноватворнай думкі — паасобку жыць і працаваць немагчыма, час аднаўляць парушаныя эканамічныя сувязі. І не проста аднаўляць, а падымаць іх на больш высокі ўзровень.

У гэтым кантэксце трэба, напэўна, разглядаць і афіцыяльны візіт урадавай дэлегацыі Беларусі на чале са Старшынёй Савета Міністраў В. Кебічам у Літоўскую Рэспубліку, які адбыўся 2 красавіка.

На граніцы гасцей сустракаў міністр замежных спраў Літвы А. Саўдаргас. Тут журналісты спыталі Вячаслава Францавіча, з якім настроем ён едзе ў Вільнюс, і пачулі лаканічны адказ: з дзелавым. І трэба адзначыць, што менавіта гэты настрой вызначаў ход усіх сустрэч і гутарак у сталіцы Літвы.

Адбыліся перагаворы В. Кебіча і прэм'ер - міністра Літоўскай Рэспублікі Вагноруса, на якіх абмяркоўваўся шырокі спектр двухбаковых адносін, а таксама шэраг іншых пытанняў, якія ўяўляюць узаемную цікавасць. Пасля іх завяршэння бакі падпісалі Пагадненне аб прынцыпах гандлёва - эканамічнага супрацоўніцтва паміж нашымі рэспублікамі на 1992 год. У ім, у прыватнасці, прадугледжваецца прыняць неабходныя меры па выкананню ўзаемных паставак прадукцыі, садзейнічаць стварэнню сумесных прадпрыемстваў, удзельнічаць інвестыцыямі ў ажыццяўленні сумесных праграм і праектаў, забяспечваць прававую абарону дзяржаўнай уласнасці, уласнасці юрыдычных асоб і грамадзян і г. д.

Пасля падпісання дакументаў журналісты пацікавіліся ў прэм'ер - міністраў, як яны ацэньваюць пагадненне?

— Хоць мы і заключылі гэтае пагадненне толькі сёння,— адзначыў Г. Вагнорус, — але тое, што наша эканамічнае супрацоўніцтва на працягу трох першых месяцаў гэтага года развівалася паспяхова, сведчыць: у нас складваюцца ўзаемавыгадныя сувязі і без пратаколаў. Гэтае пагадненне завяршае першы этап у літоўска - беларускіх адносінах, і ў далейшым мы можам разглядаць іншыя дакументы.

— Хацелася б выказаць удзячнасць літоўскім калегам за тое, — сказаў В. Кебіч, — што яны з разуменнем паставіліся да ўзнятых намі пытанняў і, у прыватнасці, тых, якія звязаны з забеспячэннем Беларусі электраэнергіяй. У выніку перагавораў з панам Вагнорусам дасягнута дамоўленасць аб тым, каб выдзеліць гэтую праблему ў якасці асобнай і на даўгачаснай аснове падпісаць спецыяльнае пагадненне. Мы практычна нідзе і ні ў чым не разышліся ў думках.

У другой палавіне дня Старшыня Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь В. Кебіч быў прыняты Старшынёй Вярхоўнага Савета Літоўскай Рэспублікі В. Ландсбергісам. У ходзе гутаркі абмеркаваны пытанні беларуска - літоўскай граніцы, свабоды руху тавараў, пагранічных пераходаў з Польшчай і шэраг іншых праблем. Бакі былі аднадушнымі ў тым, што неабходна забяспечыць свабоднае развіццё нацыянальных меншасцей, уключаючы стварэнне беларускіх школ у Літве і літоўскіх—у Беларусі.

У час знаходжання ў Літоўскай Рэспубліцы В. Кебіча суправаджалі намеснік Старшыні Савета Міністраў Беларусі С. Брыль, міністр замежных спраў П. Краўчанка і іншыя афіцыяльныя асобы.

**Сяргей БУЛАЦКІ.**
**(Служба інфармацыі беларускага ўрада).**

## 20 РУБЛЁЎ ЗА ЛІТР БЕНЗІНУ ПЛАЦІЦЬ, МОЖА, І НЕ ПРЫЙДЗЕЦЦА

**Тое, што абяцанае ўрадам Расіі вызваленне цэн на нафту закране не толькі аўтааматараў, чые машыны ўжо сёння ледзьве не кіламетровымі чэргамі стаяць да кожнай працуючай бензакалонкі, зразумела нават дзецям. Чуткі разносяцца самыя страшныя, лічбы называюцца фантастычныя. Абрыдлы журналісцкі штамп застойных часоў—«чорнае золата»—пагрозліва набывае рэальны сэнс.**

**Але ўсё ж, чаго нам чакаць ад адпушчаных цэн на энерганосьбіты? З гэтым пытаннем карэспандэнт «Звязды» звярнуўся да намесніка старшыні Дзяржкамітэта па забеспячэнню нафтапрадуктамі РБ Валерыя ЗАРАНКА.**

— Літаральна днямі наш урад звярнуўся да ўрада Расіі з прапановай да канца бягучага года захаваць на нафту фіксаваную цану. Узяць за аснову той узровень, які абгаворваўся ў канцы мінулага года, і сённяшнія свабодныя цэны на расійскім рынку, вывесці нейкую сярэднюю лічбу і ёю ўжо кіравацца — каб не было рэзкіх скачкоў і вялікіх перакосаў. Гэтая «сярэдняя» цана бачыцца дзесьці на ўзроўні 2 тысяч рублёў за тону.

**— Прапанова датычыць усёй СНД ці толькі Беларусі?**

— Толькі гаспадарчых сувязей з Рэспублікай Беларусь. Цяжка пакуль сказаць, ці пойдзе расійскі ўрад нам насустрач.

А на сённяшні дзень у нас існуюць дзве цаны: 350 рублёў за тону плюс 28 працэнтаў падатку (што ў выніку дае 448 рублёў) і свабодная, па якой рэспубліка атрымлівае 40 працэнтаў усёй сваёй нафты ў межах вызначанай Расіяй квоты. Свабодная цана цалкам залежыць ад аб'яднання-пастаўшчыка, ад умоў дагавора — ёсць 2.500 рублёў за тону і ёсць 3.500, 4.500 рублёў. Ёсць нават 8 тысяч рублёў — самая высокая цана, па якой прапануе сваю прадукцыю аб'яднанне «Сургутнафтагаз». Зыходзячы з сярэдніх цэн на нафту, мы ўстанаўліваем цэны, па якіх у перапрацоўчых заводаў прадпрыемствы рэспублікі закупляюць увесь пералік нафтапрадуктаў.

(Заканчэнне на 2-й стар.).

### ЛІМІТНЫЯ КНІЖКІ ДЛЯ АЎТААМАТАРАЎ

Уладальнікі асабістага транспарту з брэсцкімі нумарамі спяшаюцца набыць лімітныя кніжкі, без якіх брастчане надалей (з 6 красавіка) не атрымаюць месячную норму бензіну: 80 літраў— на аўтамабіль, 40 — на матацыкл.

### «ШМАТРАЗОВЫЯ» ТАЛОНЫ

**З сейфа «Саюздруку» ў Брэсце ўкрадзены праязныя аднаразовыя талоны на суму 6 тысяч рублёў, праязныя білеты — 80 штук па 27 рублёў і столькі ж па 21 рублю.**

**Таццяна ГУСЕВА.**
**(РІД).**

### «ЗВЯЗДА» Ў КІЁСКАХ «САЮЗДРУКУ». ЁСЦЬ ПАДСТАВЫ ДЛЯ АПТЫМІЗМУ

**Ніводнага вытворцу не можа не цікавіць, як разыходзіцца яго прадукцыя. Безумоўна, непакоіць і нас, як «ідзе» «Звязда» ў рознічным продажы. На вялікі жаль, мы не можам цяпер аналізаваць даных па продажу «Звязды» ў сакавіку гэтага года, але даныя «Саюздруку» за студзень і люты па «Звяздзе» ўсё ж даюць нейкія падставы для аптымізму. Як нам, газетчыкам, так і вам, чытачам.**

Вельмі добра раскупліваюць газету ў Мінскай вобласці. Калі за студзень было спісана 2 171 экземпляр «Звязды», то ўжо ў лютым—усяго 353. І гэта пры тым, што кожны дзень у кіёскі «Саюздруку» Мінскай вобласці паступала 2 250 экземпляраў газеты.

Рэзкі прагрэс у гэтым плане можна заўважыць і па Брэсцкай вобласці. Няшмат спісана газеты і ў Гомельскай вобласці.

Нам цяжка знайсці прычыны, чаму не «ідзе» «Звязда» ў віцебскіх кіёсках «Саюздруку», але факт застаецца фактам. За студзень там спісана 7 575 экземпляраў, за люты — 7 846 пры штодзённым паступленні 2 250 штук.

Не вельмі добра абстаяць справы з распаўсюджваннем нашай газеты ў Мінску. Цяпер пройдземся па раённых цэнтрах.

**Смаргонь.** Ёсць даныя за сакавік. Раскупляемасць — 100 працэнтаў. Кожны дзень сюды паступае 70 экземпляраў.

**Шклоў.** На горад ідзе 50 экземпляраў. Распрадаецца ў сярэднім 30. Але няма апошніх даных за сакавік.

**Ляхавічы.** Гэта горад, дзе на «Звязду» заўсёды няблага падпісваліся і куплялі. Працэнт спісання за сакавік нязначны.

**Салігорск.** Усе 130 экземпляраў «Звязды», якія паступаюць у горад штодзённа, разыходзяцца стопрацэнтна. Мясцовыя паштавікі лічаць, што гэта цікавая газета, пры гэтым заз значаючы: «Известия» ўжо ляжаць мёртвым грузам у кіёсках пры цане 2.50 за нумар.

Нейкіх закулісных гульняў з нашай газетай высветліць не ўдалося. Нават шматлікія апытанні мінскіх кіяскёраў паказалі: адносіны да газеты ў цэлым неблагія, і яе ў далёкі куток не засоўваюць, а кладуць побач з усімі штодзённымі газетамі на бачным месцы ў кіёску. Так што да ўсяго сказанага застаецца дадаць: купляйце, чытайце, глядзіце «Звязду», адзіную штодзённую беларускую газету!

**Аляксандр КОКТЫШ.**

### ДА ВЕДАМА НАРОДНЫХ ДЭПУТАТАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**Дзевятая сесія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь прадоўжыць сваю работу 7 красавіка 1992 года ў 9 гадзін 30 хвілін у зале пасяджэнняў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь у Доме ўрада.**

НАПЯРЭДАДНІ

## ГЛАВА АЛІМПІЙСКАЙ СЯМ'І

### У панядзелак у Мінск з аднадзённым афіцыйным візітам прыбывае прэзідэнт Міжнароднага алімпійскага камітэта сеньёр Х. А. САМАРАНЧ

Гэтага прыемнага і шчырага чалавека мне даводзілася бачыць і чуць шмат разоў. На афіцыйных прэс-канферэнцыях і прыёмах, у кулуарах чэмпіянатаў свету і самых буйных міжнародных турніраў ён заўсёды ветлівы і ўважлівы да нас, журналістаў. Здаецца, няма пытання, на якое прэзідэнт МАК не дасць ці не ведае адказу...

**З ДАСЬЕ «ЗВЯЗДЫ»**
**Хуан Антоніо Самаранч нарадзіўся ў 1920 годзе ў Барселоне. Вядомы іспанскі бізнесмен, дыпламат, палітычны і спартыўны дзеяч. Адзін з багацейшых людзей Іспаніі, тэкстыльны магнат і кіраўнік буйнейшага банка. У маладосці захапляўся боксам, быў таксама капітанам зборнай Іспаніі па хакею на ролікавых каньках, якая станавілася чэмпіёнам свету. Узначальваў дэлегацыі Іспаніі на Алімпійскіх гульнях 1956 года ў Карціна д'Ампецо, Рыме (1960 г.), Токіо (1964 г.). З 1966 года — член Міжнароднага алімпійскага камітэта, з 1970-га — прэзідэнт НАК Іспаніі. З 1977 па 1980 год — пасол Іспаніі ў Савецкім Саюзе. З 1980-га — прэзідэнт МАК.**

...Ён вельмі любіць рускую зіму і калекцыяніраваць спартыўныя паштовыя маркі... Заўзяты балельшчык зборнай па хакею... былога Саюза ССР. У якасці прэзідэнта Міжнароднага алімпійскага камітэта сеньёр Самаранч наведаў за 11 гадоў звыш 160 краін свету, а кожную раніцу, прысвячаючы 30—40 мінут гімнастычным практыкаванням, любіць... пастаяць на галаве...

Няўжо гэта адзін і той жа чалавек?

Так, гэта ён — «бацька» самай вялікай сям'і на планеце — алімпійцаў усіх краін свету.

Прэзідэнтам Міжнароднага алімпійскага камітэта ён абраны ў 1980-м — напярэдадні Маскоўскай Алімпіяды, дарэчы — у дзень свайго шасцідзесяцігоддзя. Сярод чатырох прэтэндэнтаў на гэты высокі і ганаровы пост ён ўжо ў першым туры галасавання набраў патрэбную колькасць галасоў. Гэты вынік, як сцвярджалі тады каментатары, стаў і нечаканым, і неверагодным...

А да гэтага сеньёр Самаранч чатыры гады ўзначальваў пасольства сваёй радзімы — Іспаніі ў нашай краіне. Чаму менавіта яго іспанскі кароль Хуан Карлас накіраваў у Маскву паслом — першым паслом Іспаніі пасля аднаўлення дыпламатычных адносін паміж нашымі краінамі — і да сённяшняга дня застаецца таямнічай загадкай.

А можа, гэта і ёсць феномен Самаранча?!

Поспехаў ва ўсім — палітыцы і спартыўнай дзейнасці, бізнесе і дыпламатыі (чаго было варта сабраць пасля байкотаў Алімпіяд у Маскве (1980 год) і Лос-Анджэлесе (год 1984) прадстаўнікоў 160 краін на Гульнях 1988 года ў Сеуле!) — яму ўдаецца дасягнуць дзякуючы незвычайнай працавітасці, кампетэнтнасці, уменню знаходзіць кантакты з самымі рознымі людзьмі. Сеньёр Самаранч ідэаліст і прагматык — аднначасова.

...Шмат краін у адказ на наша ўварванне ў Афганістан аб'явілі байкот Маскоўскай Алімпіяды 1980 года. Нагадаю яшчэ раз: Самаранч тады толькі-толькі ўзначаліў МАК. Мы, вядома ж, па распрацаванаму на Старой плошчы сцэнарыю нанеслі ўдар — наіўны і безразважлівы — у адказ: падалі «прыклад» і падбухторылі большасць краін «сацыялістычнай садружнасці» на байкаціраванне Гульняў у Лос-Анджэлесе. У спорт, такім чынам, умяшалася недалёка ідучая палітыка, і міжнародны алімпійскі рух апынуўся на мяжы развалу.

Хуан Антоніо Самаранч неадкладна паімчаўся ў Маскву. Яго намерамі былі неадкладная сустрэча і перамовы з тагачасным лідэрам краіны Саветаў Канстанцінам Чарненкам. Аднак той — факт, варты Кнігі рэкордаў Гінеса — упершыню ў гісторыі міжнароднага алімпізму главу МАКа не прыняў. У былой савецкай сталіцы прэзідэнту Міжнароднага алімпійскага камітэта наладзілі прыём у намесніка Старшыні Савета Міністраў СССР Мікалая Талызіна, які меў аб міжнародным алімпійскім руху самыя далёкія паняцці. Па сусветных канонах і мерках функцыянер сярэдняга ўзроўню паімкнуўся было расказаць прэзідэнту МАК пра... Савет Эканамічнай Узаемадапамогі, будаўніцтва... нафтаправода з Сібіры ў краіны сацыялістычнай садружнасці... Усё гэта моцна пакрыўдзіла Самаранча, і ён потым расказваў нам: «Я ездзіў у Маскву дзеля гісторыі...»

Ён пакрыўдзіўся, але не расчараваўся ў нашай краіне. Ён добра ведае і яе, і наш народ. І якім вялікім было здзіўленне літаральна ўсіх, калі адразу пасля нашага байкоту Лос-Анджэлеса прэзідэнт МАК зноў паспяшаўся ў савецкую сталіцу.

Гэта быў першы ягоны крок да трыумфу ў Сеуле, на Гульнях XXIV Алімпіяды.

Толькі аднаму яму, сеньёру Самаранчу, вядома і тое, як, якім чынам фінансавыя справы Міжнароднага алімпійскага камітэта са становішча банкрута зноў узняліся да працвітання і вялікіх барышоў. Нагадаю: Манрэальскія Гульні 1976 года прынеслі Канадзе мільярд долараў страт, а Сеульская Алімпіяда-88 — наадварот — прыбыткі... Спонсарства — раз, удзел у фінансаванні алімпізму сусветна вядомых кампаній і карпарацый — два... Што яшчэ — гэта ўжо сакрэты прэзідэнта МАК.

Прыемны і шчыры чалавек, сеньёр Самаранч аднначасова і катэгарычны, так бы мовіць, жорсткі функцыянер і адміністратар. Аднойчы мы спыталіся ў яго аб адносінах да аматараў допінгу, і твар прэзідэнта стаў суровым і, як мне падалося, злосным. У самы бліжэйшы час ён мае намер прыняць надзвычай жорсткія меры да прыхільнікаў стэроідаў, наркотыкаў і іншых прэпаратаў, прычым не толькі да тых, хто іх ужывае, але і да ўрачоў, менеджэраў, трэнераў — людзей, што акружаюць атлетаў, «натхняюць» іх і штурхаюць на выкарыстанне забароненых сродкаў. «Спорт павінен быць чысты і сумленны», — любіць паўтараць Самаранч.

На пытанне, якое задаў аднаго разу я яму: «Ці падабаецца вам работа на пасту прэзідэнта МАК?», сеньёр Самаранч адказаў: «Вельмі падабаецца! Клопатаў шмат, але я атрымліваю ад гэтага вялікае задавальненне...»

Амаль палавіну часу аддае ён зараз паездкам па ўсяму беламу свету. Устанаўленне асабістых кантактаў з кіраўнікамі краін, наведванне дзяржаў — новых членаў Міжнароднага алімпійскага камітэта, знаёмства са становішчам спорту ў свеце — вось, бадай, асноўныя мэты гэтых падарожжаў. З такімі ж задумамі прыбывае сеньёр Самаранч і ў Мінск. Ён сустрэнецца са Старшынёй Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіславам Шушкевічам і прэм'ер-міністрам Вячаславам Кебічам, наведае спартыўныя аб'екты рэспублікі, правядзе грунтоўныя гутаркі са спартыўнымі работнікамі, у тым ліку і прэзідэнтам НАК Беларусі Уладзімірам Рыжанковым. Глава алімпійскай сям'і, як і заўсёды, больш будзе глядзець і слухаць, чым гаварыць сам. Гэта — ягоная звычка, манера паводзін. І — дзеянняў.

А як жа інакш! Інакш не быў бы ён ні прэзідэнтам Міжнароднага алімпійскага камітэта, ні, прынамсі, Самаранчам...

**Анатоль МЯСНІКОЎ.**

**На здымку:** 1980 год. Прэзідэнт МАК Хуан Антоніо **Самаранч** уручае Алімпійскі ордэн трохразоваму алімпійскаму чэмпіёну мінчаніну Аляксандру **Мядзведзю.**



ЕЎРОПА І БЕЛАРУСЬ

# У ВЕНЕ ТОЛЬКІ БЕЛАРУСЬ НЕ ПРАСІЛА ГРОШАЙ

**Днямі ў сталіцы Аўстрыі завяршыўся трохдзённы кангрэс Еўрапейскага згуртавання па кіно і аўдыёвізуальнай інтэграцыі Усходу і Захаду. Арганізавалі кангрэс Міністэрства замежных спраў Францыі, Аўстрыйскі ўсходні фонд і Фонд Гутэнберга. Мэтай форуму было знаёмства заходніх краін з краінамі былога сацыялістычнага лагера і дзяржавамі СНД у галіне кіно, відэо, тэлебачання і сувязі, наладжванне адпаведных кантактаў. У Вену на кангрэс з'ехаліся прадстаўнікі Румыніі, Польшчы, Венгрыі, Югаславіі, Чэха-Славакіі, Балгарыі і нават Албаніі. Былы Савецкі Саюз прадстаўляла шматлікая дэлегацыя з Масквы, а таксама прадстаўнікі Літвы, Латвіі і Беларусі. Ад імя нашай рэспублікі выступалі тры чалавекі — кіраўнікі студыі АБЦ (Анімацыйны Беларускі Цэнтр, аб якім «Звязда» ўжо расказвала): дырэктар студыі Ігар Казак, мастацкі кіраўнік Алег Белавусаў і намеснік рэдактара па гуманітарных сувязях Аляксандр Давідовіч. Мы даведаліся ў Алега Белавусава аб ходзе кангрэса, аб перспектывах Беларусі як тэледзяржавы і іншых рэчах.**

### ЕЎРОПА Ў НАС ЗАЦІКАЎЛЕНА

На Венскі кангрэс з боку краін капіталістычнага свету з'ехаліся даволі вядомыя людзі, у асноўным на ўзроўні бундэсміністраў па культуры і прадстаўнікоў буйнейшых еўрапейскіх тэлевізійных кампаній, іншых еўраінстанцый. Ад самой Аўстрыі прысутнічаў федэральны міністр адукацыі і культуры доктар Рудольф Шотэн, а Савет Еўропы прадстаўляў эксперт па аўдыёвізуальнай інфармацыі П'ер Мюсо. Усё гэта сведчыць аб тым, што еўрапейскія краіны вельмі зацікаўлены ў нас і хацелі даведацца, што мы сабой уяўляем як партнёры. Нездарма пад форум выдзелілі знакаміты будынак венскага Кангрэс-Хале, у другіх пакоях якога адначасова праходзіў кангрэс па звычайнай зброі. З намі гатовы супрацоўнічаць, нават на дзяржаўным узроўні, аднак вельмі баяцца нестабільнасці ў краінах Усходняй Еўропы, і асабліва ў СНД. Да таго ж пад «прыгожыя вочкі» ніхто з заходнееўрапейскіх бізнесменаў ад культуры грошы даваць не збіраецца. А ўвесь кангрэс прайшоў, на жаль, менавіта пад знакам нашага своеасаблівага жабрацтва...

### А Ў ЧЫМ ЗАЦІКАЎЛЕНЫ МЫ!

Як гэта ні прыкра, але кангрэс пакінуў даволі сумнае ўражанне менавіта з-за пазіцыі нашых былых «саюзнікаў» і «суайчыннікаў». Усе яны ў адзін голас, амаль як жабракі на цвінтары, прасілі грошай. Асноўны лейтматыў кангрэса — «Дайце нам грошай». Польская дэлегацыя скардзілася, што ў іх, маўляў, у Гданьску маленькая студыя, і для яе ўзбуйнення патрэбны фінансы. Югаславы спасылаліся на грамадзянскую вайну і таксама прасілі грашовую дапамогу. Гэтак жа маскоўская і астатнія дэлегацыі. На гэтым фоне вельмі адрознівалася пазіцыя нашай, беларускай, дэлегацыі. Гэта была, па сутнасці, адзіная «каманда», якая не прасіла, а нешта прапаноўвала. Студыя АБЦ — ужо гатовыя анімацыйныя фільмы, дакументальныя стужкі, іншыя формы супрацоўніцтва. Гэта выклікала павагу з боку прадстаўнікоў Захаду, і ў іх з'явілася жаданне нам дапамагчы.

### «АЛІСА», АЛЕ НЕ БІРЖА

Вось адзін з праектаў, які павінен выклікаць пэўную цікавасць, асабліва ў беларускіх прадпрымальнікаў. Існуе еўрапейскі тэлечасопіс пад назвай «Аліса». Ён дэманструецца на экранах Італіі, Іспаніі, Францыі, Германіі, Аўстрыі і іншых краін. Паказ часопіса доўжыцца 52 хвіліны, перыядычнасць — адзін раз у тыдзень. Да нядаўняга часу карэспандэнцкія пункты «Алісы» былі толькі ў Санкт-Пецярбургу і Рызе. Зараз ёсць дамоўленасць аб адкрыцці карпункта ў Мінску. Што ў гэтым карыснага? Справа ў тым, што 52 хвіліны ў тыдзень ідзе інфармацыя аб культуры, палітыцы, эканоміцы з ўсіх еўрапейскіх краін. Цяпер яны гатовыя ўключыць у гэты тэлечасопіс і Беларусь са сваімі сюжэтамі. У сувязі з тым, што «Аліса» — часопіс не вельмі багаты, яго кіраўнікі «заплюшчваюць вочы» на тое, што ў канцы ці пачатку кожнага сюжэта ідзе рэклама з адпаведнай краіны. Напрыклад, МАЗ ці Мінскі завод халадзільнікаў вырашаць даць рэкламу ў мінскі карпункт «Алісы». Яна абыдзецца ім практычна бясплатна (па еўрапейскіх мерках), і без усялякіх перашкод разыдзецца па ўсёй Еўропе. Акрамя таго, калі будзе дамоўленасць з Беларускім тэлебачаннем, можна будзе кожны тыдзень паказваць гэтую гадзінную еўрапейскую праграму нашым землякам. Гэта вельмі важна. Бо ў час кангрэса склалася ўражанне, што і мы пра іх амаль нічога не ведаем. Але не толькі «Аліса» зможа дапамагчы Беларусі. Існуе яшчэ еўрапейскі культурны канал, які абслугоўвае ўсе краіны Еўропы некалькі гадзін ў тыдзень. У прадстаўнікоў студыі АБЦ адбылася сустрэча з менеджэрам гэтага канала. Ён заверыў, што канал гатовы выкарыстоўваць беларускую аўдыё- і відэапрадукцыю, а гэта дапаможа нам яшчэ больш увайсці ў інфармацыйную сетку Еўропы.

### ПОВАР, КУРСАНТ І Г. Д.

У студыі АБЦ існуе дамоўленасць з адной французскай фірмай аб сумеснай вытворчасці на Беларусі. Французскія партнёры жадаюць здымаць у нас цікавыя сюжэты. Напрыклад, аб повару, які кожны дзень ходзіць на работу з жаданнем стварыць што-небудзь смачнае з нашых нешматлікіх прадуктаў. Ці аб курсанце вышэйшага ваеннага вучылішча, дзеля чаго ў Мінскім ВІЗРВ ужо адабрана кандыдатура. Французы гатовы здымаць у нас стужкі на самую розную тэматыку. А гэта ж яўны прыток так не хапаючай зараз валюты.

### БУДЗЕМ ЗМАГАЦЦА З АМЕРЫКАЙ!

На кангрэсе ў Вене вельмі яскрава прагледжвалася спроба супраціўлення еўрапейскіх краін амерыканскай экспансіі. Уся Еўропа ўжо завалена амерыканскай кінапрадукцыяй. Менавіта таму на кангрэсе гучалі словы аб тым, што мы ўсё-такі еўрапейцы, у нас свая культура, свае традыцыі і эстэтыка, таму трэба змагацца з Амерыкай. А яна, дарэчы, здольна «задушыць» усе краіны па адной. Вось з гэтага пункту гледжання еўрапейскія босы і прыглядаліся да краін СНД—падымем рукі ўгору перад амерыканскай нізкасортнай прадукцыяй ці разам пачнём змагацца супраць яе. Тут мы іх расчаравалі. Беларусь таксама «закідана» таннай штатаўскай прадукцыяй (якая, дарэчы, спецыяльна вырабляецца для краін «трэцяга свету»), і няма канца гэтаму бездухоўнаму тунелю. Таму трэба як мага хутчэй адчуць сябе еўрапейцамі з вялікай літары.

### ГУД БАЙ, АСТАНКІНА!

У красавіку па лініі студыі АБЦ у Мінск павінен прыехаць прадстаўнік вельмі вядомай французскай кампаніі, якая ў свой час абсталявала высокакласнай апаратурай усё Астанкіна. Ён вельмі зацікаўлены менавіта ў нашай рэспубліцы і яшчэ ў Вене цікавіўся палітычнай абстаноўкай на Беларусі. У час прыезду французскага прадстаўніка ў Мінск можа зайсці гаворка аб грандыёзным праекце па пераабсталяванню Беларускага тэлебачання (калі яно ў гэтым зацікаўлена) ці тэлестудыі ў рамках АБЦ. Мы ў Беларусі карыстаемся інфармацыяй Расійскага (астанкінскага) тэлебачання і з еўрапейскай сеткі практычна выключаны. Але Беларусь — незалежная дзяржава, а атрымлівае інфармацыю ў тым выглядзе, які выгадны Расіі. Да таго ж, ходзяць чуткі аб тым, што Расія проста перастане трансліраваць на нашу рэспубліку свае каналы. Гэта значыць, мы застанёмся без карпунктаў у замежных краінах, а ўлічваючы «бяззубасць» Беларускага тэлебачання, — практычна без інфармацыі.

Плюс да гэтага ў рэспубліцы няма дамоўленасцей з краінамі Захаду аб абмене каналамі і праграмамі. Наспявае інфармацыйны голад. Каб яго прадухіліць, трэба вельмі сур'ёзна падысці да вышэйназванага беларуска-французскага праекта. Мы можам атрымаць тэлевізійнае абсталяванне вышэйшага класа, з якім магчыма паспяхова «забіць» тую інфармацыйную яму, што з'явіцца са спыненнем трансляцый з Астанкіна. Вось чаму трэба будзе тэрмінова падключыць да гэтай справы Беларускае тэлебачанне, Міністэрства культуры, Міністэрства сувязі і заканадаўчыя органы ўлады аж да Вярхоўнага Савета РБ. Толькі тады ў аўдыёвізуальнай галіне Беларусь зможа стаць на вышэйшую ступень.

### ЧАМУ МЕНАВІТА АБЦ!

У адрозненне ад традыцый часоў «застою» ад Беларусі на кангрэс паехалі не бюракраты з высокіх пасад, а прадстаўнікі адной анімацыйнай студыі. Нашы аніматары размаўлялі ў асноўным аб сваіх справах, але мелі на ўвазе інтарэсы ўсёй Беларусі, усяго народа, аб чым сведчаць вышэйназваныя праекты. Да таго ж у студыі АБЦ добра разумеюць, што аднаму іх рэалізаваць вельмі цяжка. Зараз галоўная задача — граматна выкарыстаць тыя магчымасці па аўдыёвізуальнаму забеспячэнню, якія адкрыліся для Беларусі. А ў гэтым павінны быць зацікаўлены мы ўсе.

**Станіслаў СУЛКОЎСКІ.**

## Не сталі акцыянерамі— станем аўкцыянерамі

Клопатам аб блізкіх прадыктаваны некаторыя рашэнні сесіі Аршанскага раённага Савета. Адзін з дакументаў, напрыклад, загадвае: «...арганізаваць збор, перапрацоўку і рэалізацыю танных, уцэненых ці былых ва ўжытку адзення і абутку для малазабяспечаных слаёў насельніцтва». Гэта датычыцца тых, хто на схіле гадоў апынуўся на мяжы беднасці. Ну, а для тых, каму ў нас «усё самае лепшае», будуць праводзіцца (і ўжо праводзяцца) аўкцыёны па продажу дзіцячых рэчаў «сэканд-хэнд». Для сем'яў з мінімальным дастаткам падобныя аўкцыёны ледзь ці не адзіная рэальная магчымасць апрануць дзяцей. Да абноскаў «з-за бугра» прыбавіліся яшчэ і такія ж айчынныя. Аднак і яны наўрад ці вырашаць праблему нястачы і недаступнасці з-за дарагоўлі дзіцячага адзення.

**А. ХАІНСКІ, БелаПАН.**

ЯК БЫЦЬ ПРЫГОЖАЙ

## Выкарыстайце хусткі замест тканіны

**БЛУЗОН, ПАШЫТЫ З ХУСТАК,** — гэта не толькі модна, прыгожа, утульна і цёпла. Гэта — і выйсце са становішча, калі вам вельмі хочацца мець нешта новае ў гардэробе на цёплы веснавы дзень, а ўсё такое дарагое і тканіны патрэбнай не знайсці. Пашукайце ў сваёй шафе або купіце ў магазіне дзве шарсцяныя хусткі памерам 90×90 см. Апрацуйце іх прасам так, каб яны расцягнуліся ў даўжыню і атрымалі памер 80×100 см. Вядома, замест хустак можна ўзяць мяккае трыкатажнае палатно адпаведных памераў.

Сагніце хусткі напалавіну ў даўжыню і размясціце на іх дэталі наступным чынам. На адной хустцы кройце спінку, дзве пярэднія палавінкі двухшоўных рукавоў і каўнер. На другой — перад, дзве заднія палавінкі рукавоў і манжэты.

Для нагляднасці мы змяшчаем малюнак раскладкі выкрайкі на абедзвюх хустках. У дужках указана шырыня пераду. Усё. Можна шыць.

Але яшчэ крыху ўседлівасці і цярпення. Блузон будзе асабліва прывабным, эфектным і ў сучасным стылі, калі вы не паленуецеся і ўпрыгожыце яго перад аплікацыяй і вышыўкай. Гэта якраз тое дапаўненне, што робіць наша ўбранне асабліва модным у гэтым сезоне.

Для гэтага вам спатрэбяцца кавалачкі аксаміту, сукна, драпу, атласу адпаведнага колеру, а таксама па 20 г пушыстай тоўстай шарсцяной пражы ружова-бэзавага колеру. Пялёсткі кветак выканайце аплікацыяй з розных кускоў тканіны, а сцяблíны можна зрабіць або апплікацыяй, або з дапамогай вышыўкі кручанымі шнурамі з шарсцяных і шаўковых нітак.

Каб таўшчыня іх была рознай, вар'іруйце колькасць нітак у шнуры і колькасць шнуроў, укладзеных побач. Шнуры прастрачыце на машыне або прышыйце швом «назад іголку». Канцы шнуроў выведзіце на левы бок і замацуйце ўручную. Такімі ж шнурамі ўпрыгожце валік гарлавіны.

Па апліканыі і ў месцах, да якіх трэба прыцягнуць увагу, нашыйце ўроссып бліскаўкі, кожную з якіх замацуйце бісерам.

Графічны выгляд вышыўкі вы бачыце на малюнку. Калі ваша фантазія падкажа вам штосьці іншае, — нічога не маем супраць.

Жадаем поспеху!

**Матэрыял да друку падрыхтавала Марыя ДАБЖЫНСКАЯ.**




## 20 рублёў за літр бензіну плаціць, можа, і не прыйдзецца

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

**— Ці хапае нам сёння закупляемай нафты? Усе памятаюць урадавыя заявы наконт таго, што паліва ў абрэз і што ўсё яно будзе кінута на сяўбу.**

— Калі на сесіі Вярхоўнага Савета абмяркоўвалі падрыхтоўку да сяўбы, В. Ф. Кебіч сапраўды заявіў, што для правядзення сяўбы будуць прыцягнуты ўсе рэсурсы. Але гэтыя яго словы многімі былі ўспрыняты не зусім правільна. Хай людзі супакояцца — ніхто не збіраецца адмаўляць у набыцці бензіну аўтааматарам, ставіць на прыкол прыватны транспарт. Тым больш, што і неабходнасці ў гэтым няма. На сакавік мы мелі рэсурсы 235 тысяч тон бензіну, што больш, чым у мінулым годзе, — вельмі добрая лічба. Хапіла ўсім, нават засталося. У красавіку становішча пакуль няпэўнае. З патрэбных для перапрацоўкі 7,5 мільёна тон нафты мы на сёння атрымалі пацвярджэнне толькі на 4 мільёны 230 тысяч тон. Але ўсё роўна мы ўжо маем 190 тысяч тон бензіну, а вёсцы для сяўбы патрэбна каля 90 тысяч тон. За сакавік яна ўжо атрымала 104 тысячы тон, атрымае належнае і ў красавіку. Астатнім спажыўцам, уключаючы прыватнікаў, застаецца 100 тысяч тон, і чакаюцца новыя паступленні.

**— Тым не менш, заправіцца сёння вельмі складана. Ажыятаж не змяншаецца.**

— Так, паляпшэння тут не відаць. Чэргі не змяншаюцца, хоць продаж бензіну трымаецца на звычайным узроўні.

**— І зусім не дзейнічаюць нормы водпуску, вызначаныя ў 20 літраў на машыну. Характэрная сітуацыя: выходзяць з машыны ля бензакалонкі 3—4 чалавекі, і кожны бярэ па 20 літраў — касір жа не глядзіць, той самы аўтамабіль на месцы стаіць ці новы пад'ехаў! Потым, калі ёсць дастаткова пустых каністраў, яны падбягуць да касы яшчэ па разу. Глядзіш — не 20, а ўсе 120 літраў залілі. А астатнія вымушаны чакаць. 3—4 гадзіны трэба, каб заправіцца.**

— Запасаюцца людзі любой цаной. Лічу, што парадак на запраўчных станцыях павінна навесці міліцыя — не так ужо ў нас шмат гэтых станцый, прычым уначы большасць не працуе.

**— Так, людзі запасаюцца і маюць, шчыра кажучы, для гэтага ўсе падставы. Колькі будзе каштаваць літр бензіну, калі ўрад Расіі адхіліць нашы прапановы і адпусціць цэны? Называюцца лічбы парадку 17—20 рублёў...**

— Ну што вы — гэта зашмат. У 2—3 разы цэны, вядома, вырастуць. Літр АІ-93 павінен каштаваць самае большае рублёў пяць.

**— Вы спадзяецеся, што гэтым абмяжуецца? Але пасля вызвалення цэн на нафту рост цэн на ўсё, і перш за ўсё на яе ж саму, будзе бесперапынным. Даражаюць энерганосьбіты — даражае электраэнергія. Даражае электраэнергія — даражэй абыходзіцца здабыча нафты і вытворчасць нафтапрадуктаў...**

— І хімічная прамысловасць, і транспарт, і ўсё наогул. Таму мы хочам знайсці нейкую разумную мяжу, якая б задаволіла абодва бакі.

**— Скажыце, калі ласка, як спецыяліст: ёсць у расійскіх нафтавікоў такая жорсткая неабходнасць адпускаць цэны? Альбо галіна магла б яшчэ пратрымацца з дапамогай датацый і г.д., каб не раскручваць інфляцыйную спіраль?**

— Калі мы яшчэ ўзімку ўзгаднялі пастаўкі, яны казалі, што ім, каб нармальна існаваць, трэба 3,5 тысячы рублёў за тону нафты. На жаль, усё мяняецца вельмі хутка, і ў першую чаргу — апетыты нафтавікоў. Зараз здаецца, што абмежаваць іх у стане толькі адмова спажыўцоў ад дарагой нафты.

**— Але ў такім выпадку яны прададуць яе за мяжу на валюту. Яшчэ лепей.**

— Экспарт нафты ўрад Расіі жорстка нарміруе, і кантроль тут належны. Мажліва, таму і ў сакавіку мы працавалі нармальна.

**— Калі цэны ўсё ж дасягнуць вышэйшай адзнакі, ці здолее Беларусь захаваць свой узровень спажывання нафтапрадуктаў?**

— У год мы спажываем каля 26 мільёнаў тон нафтапрадуктаў. На маю думку, гэтую лічбу без асаблівых праблем можна скараціць за кошт эканоміі энергарэсурсаў да 24 мільёнаў.

**— Значыць, многім нашым «гігантам», што будавалі свой дабрабыт на танных энергіі і матэрыялах, давядзецца зацягваць паясы, прывучацца гаспадарыць разумна. Што ж, хоць нейкая карысць ад усіх гэтых эканамічных катаклізмаў.**

**Гутарыў Аляксандр БЯРСУДСКІ.**

ДЛЯ ВАС, ЗАБУДОЎШЧЫКІ



| ЭКСПЛІКАЦЫЯ ПАМЯШКАННЯЎ | Плошча, $м^2$ |
|---|---|
| 1. Агульны пакой | 11,0 |
| 2. Спальня | 10,0 |
| 3. Кухня | 7,0 |
| 4. Прыхожая | 7,0 |
| 5. Туалет | 1,5 |
| 6 і 7. Спальні | па 10,1 |
| 8. Веранда | 7,1 |
| 9. Гараж | 18,8 |
| 10. Склеп | 10,1 |
| 11. Гаспадарчае памяшканне | 7,9 |

# Дом на любы густ

**Працягваем публікацыю праектаў жылых дамоў для індывідуальных забудоўшчыкаў. У мінулую суботу мы азнаёмілі са знешнім выглядам і планам двухпавярховага збудавання для сельскай мясцовасці і горада. Гэта быў домік-віла з лёгкімі, бы ветразі, контурамі.**

**Сёння праект больш груваскі.** Але, скажам адразу, такі ж зручны. У бюро Галоўмінскархітэктуры (заказчык зноў той жа інстытут «Мінскпраект») гэтаму збудаванню далі такі «код»: 184-000-821. 13.90.

Як бачыце, **перад вамі зноў дом-віла.** Можа быць выкарыстана ў якасці садовага доміка. Пры нязначнай перабудове ператворыцца ў аб'ёмнае збудаванне для пастаяннага пражывання ў горадзе ці раённым пасёлку. Вельмі добра будзе глядзецца на сельскай вуліцы.

**Падсобныя памяшканні, жылыя пакоі, месцы для адпачынку** размешчаны ў трох узроўнях. Тут ужо аж тры спальні! Зручны квадратны агульны пакой для адпачынку з двума вокнамі. Павялічана ў параўнанні з першым праектам кухня. Уваход ва ўсе гэтыя пакоі — асобны. Дададзім, што і прыхожая даволі значных памераў — сем квадратных метраў.

**З першага паверха лесвічка выведзе на мансарду.** Мансардай яе назавём для прыкладу, бо ўсе памяшканні, дадаткова ўцяпліўшы, можна выкарыстоўваць і зімою. Тут два спальныя пакоі (абодва па 10 квадратных метраў), веранда, якую зусім нескладана пераабсталяваць пад аранжарэю ці проста цяпліцу.

**Ёсць, вядома, падвал.** Ён зроблены пад усім домам. У ім удала «ўпісаліся» такія неабходныя для горада і сельскай мясцовасці атрыбуты, як прасторны гараж (18,8 кв. м), склеп з цёплымі сценамі і магчымым выхадам вонкі (зручна, напрыклад, загружаць бульбу), вядома ж, гаспадарчыя «засекі».

**Прадуманы магчымасці індустрыяльнага домабудаўніцтва.** Фундаменты стужачныя, яны са зборных бетонных блокаў. Сцены — з цэглы. А вось дах двухсхільны. Выкарыстаны драўляныя кроквы.

Праекціроўшчыкі паклапаціліся, **каб зменшыць расходы на ўзвядзенне гэтага кампактнага гмаху.** Патрабуецца 25 тысяч штук цэглы, 50 куб. м. бетону, 8,3 — цэменту. Сталёвых матэрыялаў патрэбна 1,4 т.

**Усіх цікавіць кошт.** Да «вялікага» падаражання ўсё ўкладвалася ў 21.930 рублёў. Цяпер цэны так імчаць уверх, што праекціроўшчыкі аказаліся ў тупіку. Усё мяняецца штодня. Толькі само будаўніцтва дасць адказ на гэтае нялёгкае пытанне.

Зазначым, што **агульны аб'ём пабудовы** — 378,7 кубаметра. Крышачку менш трэці гэтай лічбы займае падвал. А агульная плошча пабудовы — 99,8 кв. м.

**З заўвагамі звяртацца на адрас: 220123, г. Мінск, вул. В. Харужай, дом 13/61, пакой 317. Тэл. 33-74-27.**




## ВІНШУЕМ, НАСТАЎНІК І КАЛЕГА!

**Выканком Канфедэрацыі журналісцкіх саюзаў Садружнасці Незалежных Дзяржаў падвёў вынікі творчага конкурсу на лепшыя журналісцкія работы 1991 года.**

Сярод лаўрэатаў нашага прафесіянальнага спаборніцтва — два прадстаўнікі Рэспублікі Беларусь. Гэта—прафесар кафедры тэорыі і практыкі журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта Барыс Васільевіч **Стральцоў** і журналіст Павел **Якубовіч.** Першы з іх — настаўнік не аднаго пакалення беларускіх майстроў пяра і мікрафона — атрымаў гэту ўзнагароду за вялікі ўклад у распрацоўку тэорыі друку; на рахунку Барыса Васільевіча звыш дзесяці манаграфій, дзесяткі артыкулаў у перыядычным друку. Другі — за публікацыі ў «Народнай газеце».

Віншуем, лаўрэаты!

**Анатоль МЯСНІКОЎ, член выканкома Саюза журналістаў Рэспублікі Беларусь.**

НОВАЯ РУБРЫКА Ў ГАЗЕЦЕ

# Разам—праз вякі

**«РАЗАМ — ПРАЗ ВЯКІ» — так мы вырашылі назваць новую рубрыку ў нашай газеце. Аб чым тут будзе весціся гаворка — здагадацца няцяжка. Здаўна на беларускай зямлі жывуць прадстаўнікі дзесяткаў нацыянальнасцей і вялікіх, і малых, і блізкіх, і далёкіх. Жывуць мірна, дружна ў гэтым вельмі багатым на ўсё добрае краі. Але ці многа мы ведаем пра іх? Адкуль яны, як прыйшлі на Беларусь, якія святы святкуюць?.. Пад гэтай рубрыкай мы раскажам аб святах, якія адзначаюць прадстаўнікі асноўных рэлігійных канфесій на Беларусі: праваслаўныя і староверы, пратэстанты і католікі, уніяты і іудзеі, крышнаіты і мусульмане...**

**Такім чынам, мы пачынаем.**

**4 КРАСАВІКА мусульмане адзначаюць ІД АЛЬ-ФІТР (УРАЗА-БАЙРАМ). Расказвае намеснік старшыні згуртавання татар-мусульман Беларусі «Аль-Кітаб» Ібрагім КАНАПАЦКІ:**

— «Іслам» у перакладзе з арабскай азначае «пакорлівасць». Гэта адна з найбольш распаўсюджаных у свеце рэлігій (паводле звестак Сусветнай лігі, мусульман сёння налічваецца звыш 1 мільярда). Іслам узнік у Аравіі на пачатку VII стагоддзя нашай эры. На землях Беларусі мусульмане сталі аселі ў канцы XIV стагоддзя, калі Вялікі князь Літоўскі Вітаўт запрасіў на вайсковую службу татар. Яны рассяліліся каля Вільні, Мінска, Навградка, Слоніма, Гродна. Талерантнасць, якая панавала ў ВКЛ, дазваляла татарам будаваць свае мячэці, ствараць татарска-мусульманскія школы. У 1591 годзе тут пражывала каля 200 тысяч татар, якія мелі амаль 400 мячэцяў. Адзін з тагачасных храмаў, пабудаваны ў 1557 годзе каля вёскі Даўбучкі Смаргонскага раёна, захаваўся да нашых дзён і з'яўляецца самай старой драўлянай мячэццю ў Еўропе. У часы Рэчы Паспалітай мусульмане трапілі пад моцны ўплыў каталіцызму, па гэтай прычыне шмат татар пакінула краіну або прыняло хрысціянства. Таму колькасць мусульман к пачатку XVIII стагоддзя зменшылася да 30 тысяч.

На 1939 год беларускія татары мелі 17 мячэцяў і два малітоўныя дамы. Пасля другой сусветнай вайны захавалася адна дзеючая мячэць у г. п. Іўе, якая і зараз застаецца адзінай на Беларусі.

Веравызнанне ісламу выкладзена ў Каране, які быў пасланы ўсемагутным Алахам прароку Мухамеду праз анёла Джэбраіла. Культ ісламу абапіраецца на пяць «стаўпоў веры»: спавяданне веры праз абвяшчэнне формулы «Ля ілляга іллялагу Мухамед расюлюллагу» (няма Бога, акрамя Алаха, Мухамед прарок Алаха), штодзённая пяціразовая малітва (салят), абавязковая дапамога бедным, пост у месяц рамазан (саум), паломніцтва ў Меку (хадж).

У сувязі з тым, што мусульмане карыстаюцца месячным календаром, які на 11 дзён карацейшы за сонечны, то адны і тыя ж святы адзначаюцца на 11 дзён раней, чым у мінулым годзе. Толькі праз 32 гады месячныя святы і пост робяць поўны каляндарны гадавы круг.

4 красавіка пачынаецца Ід аль-фітр (свята разгавення), вядомае больш пад цюркскаю назвай Ураза-байрам. Гэтае свята з'яўляецца заканчэннем посту і працягваецца тры дні (сёлета — 4, 5, 6 красавіка). Вялікі пост рамазан (або рамадан) —абавязковы для ўсіх здаровых дарослых мусульман (тыя, хто часова быў вызвалены ад посту або выпадкова парушыў яго, павінны пасціцца пасля заканчэння месяца рамазан на працягу страчаных дзён). Пост з'яўляецца сродкам для ўтаймавання страсцей, перанятых чалавекам ад жывёлы, удасканальвання духоўных асноў.

Але вось заканчваецца нялёгкае выпрабаванне, радасна і пышна адзначаецца Ураза-байрам. Перад пачаткам свята беднякам, сіротам, жабракам раздаюць міласціну, добраахвотныя ахвяраванні ідуць і на патрэбы мячэці, 2,5 працэнта свайго гадавога даходу мусульманін павінен унесці на карысць абшчыны. У гэты дзень прынята рабіць падарункі жонцы і дзецям. Напярэдадні Ураза-байрама суседзі абменьваюцца традыцыйнымі стравамі. Дома ж збіраюцца ўсе члены сям'і, нікому не дазваляецца далёка адлучацца, бо лічыцца, што ў гэты дзень у дом прыходзяць душы памёршых.

Зранку перад малітваю мусульмане выконваюць усе ачышчальныя цырымоніі, апранаюцца ў святочнае адзенне. «...Бывай, бывай, о месяц пакаяння, прабачэння і вызвалення ад агню і пекла. Я быў вельмі ўзрадаваны, я дажыў да месяца благаслаўлёнага, але сёння, з вачыма, поўнымі слёз, я павінен сказаць сабе: о месяц рамазан, бывай... Сярод журбы, у якую я паглыбіўся, я абзываюся жаласнымі стогнамі, я праліваю крывавыя слёзы. Нягледзячы на маё кволае цела, я ўбачыў твар Твой, з асалодаю і сумам кажу: месяц рамазан, бывай...» Так гаворыцца ў адной з пропаведзей.

Пасля ўрачыстага богаслужэння мусульмане накіроўваюцца на могілкі, каб памаліцца за душы памёршых. У дзень свята прынята віншаваць адзін аднаго: «Таккаббаль Алла мінна уа мінкум» (няхай ухваліць Алах старанні нашыя ў імя Яго). Дзе-нідзе з'яўляюцца імправізаваныя базары і кірмашы, арганізоўваюцца танцы, гулянне моладзі, застоллі, але без алкагольных напіткаў.

**Падрыхтаваў Анатоль СЛАНЕЎСКІ.**

